


# Наша слова



-праграма



ДЗЕЦІ ГЭТАЙ ЗЯМЛІ *Стар.2.*

ДАРУЙ ІМ, СЯРЖАНТ! *Стар.5.*



Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 35 (299) 29 жніўня 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў


## Паступ тыдня



**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю амерыканскаму агенцтву "Асашыэйтэд Прэс".** Сярод пытанняў, на якія адказаў Прэзідэнт, было і пра яго ўзаемаадносіны са сродкамі масавай інфармацыі. Паводле слоў А.Лукашэнкі, сродкі масавай інфармацыі, за якімі стаіць інтэлігенцыя, больш спакойныя ў ацэнцы дзейнасці Прэзідэнта, выступаюць з пазітыўнай крытыкай, якую кіраўнік дзяржавы нармальна ўспрымае, як і дапускае з'яўленне на палосах некаторых дзяржаўных СМІ матэрыялаў антыпрэзідэнцкага характару. Калі Прэзідэнт крытыку ў свой адрас з боку інтэлігенцыі лічыць пазітыўнай і ўспрымае яе нармальна, а яно так і павінна быць, то неяк недарэчна выглядаюць крытычныя закіды ў бок выданняў творчай інтэлігенцыі некаторых дзяржаўных мужоў. Няўжо яны не памятаюць, што за час свайго прэзідэнцтва Аляксандр Лукашэнка неаднаразова гаварыў, што не дасць у крыўду беларускамоўныя выданні і будзе заўсёды падтрымліваць беларускую інтэлігенцыю не толькі сваім словам, але і матэрыяльна?

○ ***У друку з'явіўся указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб штомесячнай грашовай выплаце грамадзянам, якія маюць ганаровыя званні". Устаноўлена штомесячная грашовая выплата ў памеры трох мінімальных заработных плат.***

○ **У Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Гданьску адбылася сустрэча** з актывістамі беларускага культурнага таварыства "Хатка", якое з'яўляецца Гданьскім аддзяленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Генеральны консул Анатоль Бутэвіч расказаў гасцям пра культурнае жыццё ў Беларусі, пра дзейнасць консульства, адказаў на шматлікія пытанні.

○ ***У наступным годзе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" арганізуе правядзенне Другога з'езда беларусаў свету. Рашэнне аб праграме, месцы і часе правядзення Другога з'езда будзе прынята Радай ЗБС "Бацькаўшчына" 6 кастрычніка.***

○ **Сацыялагічнае апытанне 1000 прадстаўнікоў розных слаёў насельніцтва Беларусі**, праведзенае службай "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН у ліпені гэтага года паказала, што каля паловы грамадзян Беларусі, якія адмовіліся ад падпіскі і куплі газет, зрабілі гэта з-за недахопу грашовых сродкаў. У першую чаргу знізілася падпіска на выданні творчай інтэлігенцыі, бо на сённяшні дзень самымі беднымі ў нас з'яўляюцца прадстаўнікі разумовай працы. Будзе інтэлігенцыя атрымоўваць нармальную зарплату, падымецца і падпіска на выданні, якія сёння крытыкуюцца і антыбеларускімі сіламі, і некаторымі дзяржаўнымі дзеячамі за невялікія тыражы. Калі няма чалавеку за што добра апрануцца і паесці, то ці да культурніцкіх газет...

○ ***У друку з'явілася інфармацыя**, што тры ўзоры новых пашпартоў — агульнаграмадзянскага (цёмна-сіні), службовага (бардовы) і дыпламатычнага (цёмна-зялёны) і іх тэхнічныя апісанні адпраўлены на зацверджэнне. Зацвердзяць? Хутчэй за ўсё, што так. А куды падзенуць ранейшыя, з гербам "Пагоня"? Гэта ж вялізныя выдаткі.*

○ **У Беларусі па сённяшні дзень зарэгістравана 1300 турыстычных фірмаў.** Фірмаў то шмат, а ездзяць — нямногія, а калі ўзяць інтэлігенцыю, то, відаць, зусім адзінкі.

○ ***Дзеці збіраюцца ісці ў школу**, а ў школы Гомельскай вобласці паступіла пакуль толькі 60 працэнтаў новых падручнікаў. Асаблівую трывогу ў спецыялістаў упраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама выклікае адсутнасць навучальных дапаможнікаў па гісторыі і геаграфіі. Падручнікаў заўсёды не будзе хапаць, калі амаль кожны год пераглядаць іх змест...*

○ **Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКО на чале з генеральным сакратаром А.Каранкевічам упершыню арганізавала** летні двухтыднёвы лагер беларускіх клубаў ЮНЕСКО з Менска, Гародні, Бярэсця, Віцебска, Маладзечна, Оршы, Жодзіна, вёскі Сноў і пасёлка Нарач. Навучальна-адукацыйны блок уключаў мерапрыемствы па напрамках дзейнасці клубаў ЮНЕСКО — экалогія, выхаванне ў духу міру, правы чалавека і дзіцяці, нацыянальная гісторыя і культура.

# Вучыцца праўдзе і нацыянальнай годнасці

### *ЛІСТ-ЗВАРОТ*
### *да студэнцкай і вучнёўскай моладзі Беларусі*

Дарагія сябры!

Пачынаецца новы навучальны год, на працягу якога вам належыць коштам руплівай працы значна ўзбагаціць свае веды, пашырыць свой інтэлектуальны і духоўны кругагляд, умацаваць ідэйныя перакананні і маральныя прынцыпы. Вам належыць за гэты год яшчэ ў большай меры, чым вы ёсць сёння, стаць свядомымі грамадзянамі і патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны — суверэннай і незалежнай Беларусі. Ісці гэтым шляхам чалавечага і грамадзянскага станаўлення вам будзе нялёгка, бо вас будуць на кожным кроку ўводзіць у зман і збіваць з абранага накірунку людзі, якія вельмі не хочуць, каб вы выраслі і выходзілі ў самастойнае жыццё вернымі сынамі і дочкамі сваёй Маці-Краіны. Людзі, якія, свядома ці несвядома, стаяць на пазіцыях нігілістычных і варожых да ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння, якія зневажаюць і бэсцяць нашы нацыянальныя святыні, пагарджаюць нашым найкаштоўным скарбам — мовай, топчуць гістарычную памяць народа, яго шляхетныя, высакародныя традыцыі і звычаі. Людзі, якія адмаўляюць нам у праве на нашай жа Радзіме мець сваё ўласнае духоўнае і культурнае аблічча.

Асабліва агрэсіўна настроены яны супраць адвечнай мовы зямлі, на якой мы жывём,— супраць нашай роднай беларускай мовы. У гэтых людзей вялізны вопыт палітычнай мімікрыі і хітравання, вытворчасці прыгожых і прывабных слоў, за якімі — зусім не прыгожыя і не прывабныя справы. І аднак жа яны баяцца праўды, калі яе гаварыць ім у вочы. Спытайце, напрыклад, у іх: чаму вы не хочаце, каб на Беларусі панавала мова гэтай зямлі — і ім няма чаго адказаць.

Дарагія сябры! Не паддавайцеся сацыяльнай і палітычнай дэмагогіі тых, каго яшчэ вялікі Купала ахрысціў "ворагамі беларушчыны". Патрабуйце ў сваіх навучальных установах выканання Закона аб мовах і Канстытуцыі, паводле якіх беларуская мова з'яўляецца ў нас дзяржаўнай. Патрабуйце аб'ектыўнага, праўдзівага асвятлення ў лекцыях і падручніках гісторыі беларускага народа і Беларусі. Патрабуйце паважлівых адносін да нашай духоўнай і матэрыяльнай культуры, да мастацкіх каштоўнасцяў народа. Рабіце гэта з поўным усведамленнем, што тым самым здзяйсняеце свой грамадзянскі абавязак, што права на гэта вам дадзена самім Усявышнім — як і ўсюды на зямлі вашым равеснікам. Рабіце гэта, помнячы, што за вамі і з вамі такія волаты творчага духу, такія вялікія родалюбцы, апосталы і абаронцы Бацькаўшчыны, як Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Леў Сапега, Яўстахій Валовіч, Міхаіл Агінскі, Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Мікалай Нікіфароўскі, Іван Насовіч, Мітрафан Даўнар-Запольскі, Яўхім Карскі, Алаіза Пашкевіч-Цётка, Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Аркадзь Смоліч, Аляксандр Цвікевіч, Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Ігнат Буйніцкі, Уладзіслаў Галубок, Фларыян Ждановіч, Рыгор Шырма, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Драздовіч, Уладзімір Жылка, Кузьма Чорны, Гаўрыла Гарэцкі, Мікалай Улашчык, Максім Танк, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Уладзімір Караткевіч — і многія-многія іншыя, вядомыя ўсёй Беларусі і цэламу свету імёны-сімвалы, імёны-светачы, імёны-маякі.

А хто — якія постаці, якія імёны — за тымі і з тымі, што сёння закрэсліваюць нашу гісторыю, прадаюць наш гонар і славу, нашу свабоду і незалежнасць, топчуць і знішчаюць нашу мову і культуру? Хто? — папытаймася. Якія вялікія аўтарытэты навукі і культуры Беларусі? Якія выдатныя грамадскія і дзяржаўныя дзеячы? Можа тыя, што павесілі Каліноўскага? Можа, тыя, што разагналі Усебеларускі Кангрэс у 1917-м? Ці тыя, што раскроілі Беларусь напалам у 1921-м? Можа, тыя, што палкамі і прыкладамі заганялі ў калгасы ў 1929-1931-м? Ці тыя, што выразалі цвет нацыі пад корань у 1936-1938-м? Ці тыя, што 30 гадоў назад закрылі апошнія беларускія школы ва ўсіх гарадах і мястэчках нашай Радзімы? Ці тыя закупленыя гісторыкі, што ў сваіх "навуковых працах і даследаваннях" апраўдвалі і падтрымлівалі ўвесь гэты гвалт над душой народа?..

Сённяшнія паслядоўнікі і заступнікі ўсіх тых "герояў нацыі", што чынілі гэтыя зверствы і бясчынствы, спекулююць на палітычнай няспеласці і нізкай нацыянальна-гістарычнай свядомасці пэўнай часткі насельніцтва Беларусі. Ім не сорамна, ім не баліць, што з нас, з нашай беларускай дурноты людзі пачынаюць ужо смяяцца. Яны не разумеюць, што здарылася самае страшнае з усяго, што можа здарыцца ў гісторыі народа — свет пачынае з нас смяяцца. Але ж нехта павінен гэта разумець. Але ж некаму гэта павінна балець. Але ж нехта павінен ад гэтага ўспыхнуць гневам?

Дык помніце пра гэта, маладыя людзі, слухаючы прыгожую, салодкую хлусню пра раўнапраўе дзвюх моў на Беларусі, пра клопат аб развіцці беларускай нацыянальнай культуры, пра павагу і пашану да шматпакутнай, трагічнай гісторыі беларускага народа. Ведайце і помніце, што гэтая хлусня будзе панаваць у нашым грамадстве датуль, пакуль у ёй будуць зацікаўлены манкурты і халуі высокага дзяржаўнага рангу, якія дыктуюць народу сваю волю. Ведайце і помніце, што самая вялікая і небяспечная хлусня — гэта бессаромнае, цынічнае сцвярджэнне аб тым, нібыта народ Беларусі быў, ёсць і будзе шчаслівы толькі тады, калі не будзе сам гаспадаром на сваёй роднай зямлі, а будзе падпарадкаваны злой волі чыноўніка і дзяржымморды імпершавіністычнага крою.

Лёс Беларусі, лёс вашай будучыні і будучыні вашых дзяцей і ўнукаў залежыць ад таго, праўдай ці хлуснёй вы будзеце жыць і кіравацца сёння. Здароўя вам, шчасця і поспеху ў вучобе!

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

*Жыццё ТБМ*

# Зневажаючы годнасць беларусаў, разбураюць дзяржаву

Занепакоеныя станам беларускай мовы, гісторыі і культуры ў вобласці і горадзе Гомелі, прыхільнікі беларушчыны вырашылі сабрацца і абмеркаваць гэтыя пытанні на сваім агульным сходзе. Было паслана афіцыйнае запрашэнне загадчыку гарадскога аддзела адукацыі Уладзіміру Фёдаравічу Барушкову, але ён, параіўшыся ў выканкаме, тэрмінова пайшоў у адпачынак.

Атрымаў такое ж запрашэнне і начальнік упраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама Міхаіл Яфімавіч Кобрынскі. Меркавалася, што М.Кобрынскі выступіць перад удзельнікамі канферэнцыі і раскажа аб тым, колькі знішчана ў вобласці беларускамоўных школаў і садкоў. Запрашалася і яго намесніца, дарэчы, сябар абласной Рады ТБМ Лідзія Іванаўна Кацегава. Не з'явіліся ні начальнік, ні намесніца.

Запрошаны быў і намеснік старшыні аблвыканкама Аляксандр Міхайлавіч Ярчак, але ён адказаў, што ёсць дамоўленасць з Кобрынскім, што той будзе прысутнічаць.

З гарадскіх уладаў прыйшла на канферэнцыю старшыня Гомельскага гарсавета Святлана Канстанцінаўна Гальдадзе.

Дарэчы, перад канферэнцыяй М.Кобрынскі здзіўлена пытаў: "І чаго вы так канферэнцыю назвалі? Дзе вы бачыце тую дыскрымінацыю?"

Адкрываючы канферэнцыю, старшыня гарадскога таварыства беларускай мовы Валянціна Башлакова расказала пра рэзкае скарачэнне ў Гомелі беларускамоўных школаў і садкоў. Старшыня абласной Рады ТБМ Анатоль Бароўскі паведаміў прысутным, што па Беларусі пачалася весціся Белая кніга, у якую будуць заносіцца абуральныя факты знішчэння беларушчыны з указаннем месца падзеі і прозвішча таго, хто рабіў тое. Прыклады дыскрымінацыі беларускай мовы, гісторыі і культуры сустракаюцца на кожным кроку, у кожным раёне вобласці.

Пазалетась і гарадскі аддзел адукацыі, і абласное ўпраўленне дасылалі ўзнёслыя рапарты міністру адукацыі пра тое, што амаль усе першыя класы школ горада і вобласці перайшлі на беларускамоўнае навучанне. Першакласнікаў было больш як пяць тысячаў — 213 было такіх класаў. І вось наступіў 95-96 навучальны год. Ганебны рэферэндум пад карань знішчыў чорнай касой тыя першыя нясмелыя парасткі беларушчыны. Засталося ўсяго 5 працэнтаў вучняў ад той лічбы — 350 хлопчыкаў і дзяўчынак. Класаў засталося ўсяго 15. І толькі

(Заканчэнне на с. 2, 3)

# Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь у Шчэціне

Зноў бел-чырвона-белы сцяг у выгнанні і толькі там, за межамі роднай Беларусі, ён пачувае сябе вольна.

Менавіта так: святочна і ганарыста ён зіхацеў у промнях сонца, калі ўзняўся на флагштоку Шчэцінскай школы дэмакратыі і самакіравання 27 ліпеня.

Гэтая школа запрасіла на вучобу грамадзян Беларусі дэмакратычных поглядаў. У той дзень не было халодных твараў як сярод беларусаў (маладых і не вельмі), так і польскіх грамадзян. Толькі там, на другім баку Польшчы, надзвычай востра кожны беларус адчуў сум па Радзіме і сорам за выгнанне "саўкамі" адвечных беларускіх сімвалаў.

У Польшчы кожны малы паляк ведае пра "ожэл бялы"; палякі адразу пасля вайны пачалі аднаўленне эруйнаваных гітлераўцамі сваіх гарадоў, гісторыі ў мурах. І яны аднавілі Варшаву і Гданьск, Шчэцін і іншыя гарады. Яны...

А мы? Адно спадзяванне, што з дапамогай фундацыі развіцця дэмакратычнага лакальнага і іншых арганізацый, праз школы дэмакратыі, можна будзе засеяць і Беларусь "зернем дэмакратыі".

**Валерый ГРЫЦУК.**
г.Менск.

Замежжа

# Якімі яны бачаць нас?

Наша краіна робіцца ўсё больш вядомай у свеце — штодня чуем мы з вуснаў дыктараў дзяржаўных радыё і тэлевізіі, чытаем на старонках урадавага друку. Але ці адпавядаюць рэчаіснасці гэтыя словы?

Нядаўна карэспандэнт польскага радыё на адной з цэнтральных вуліц Варшавы — Маршалкоўскай — правёў апытанне. Перад яго ўдзельнікамі ставілася адно пытанне: што яны ведаюць пра Беларусь?

Вось якія адказы ён атрымаў ад першага са сваіх суразмоўцаў:

— Нічога. Беларусь — гэта кавалак Польшчы.

— А беларусы, між іншым, гавораць, што Міцкевіч ды Касцюшка — гэта іхнія вялікія землякі. Што Вы на гэта скажаце?

— Ну што ж, калі я лічу Беларусь кавалкам Польшчы, дык і яны могуць лічыць нешта польскае сваім. Але гэта справа перш за ўсё Лукашэнкі.

Іншы варшавянін меў іншыя погляды:

— Ведаеце, сама Беларусь у мяне выклікае станоўчыя асацыяцыі, толькі Лукашэнка — адмоўныя.

Гэткія адказы далі людзі старэйшага ўзросту. Пасля журналіст звярнуўся да прадстаўніка маладога пакалення:

— Вы чулі пра Беларусь?

— Так, крыху.

— А што канкрэтна?

— Гэта — былы СССР, там камунізм.

Трохі больш ведала дзяўчына студэнцкага ўзросту:

— Я нешта чула пра Беларусь. Гэта наш сусед на паўночным усходзе. Я была ў Гародні, трошкі бачыла краіну, але яна не выклікае ў мяне ніякіх эмоцыяў, ні станоўчых, ні адмоўных.

Жанчыны, як аказалася, ведалі больш. Таму наступны адказ таксама дала жанчына:

— Нешта я чула, але нічога канкрэтна не магу сказаць — палітыка мяне не цікавіць.

Пасля яе на пытанне адказала дзяўчынка-школьніца:

— Я ведаю, гэта такая краіна, але не памятаю нічога больш.

— Беларусь — гэта Еўропа, Азія ці Амерыка?

— Я проста не цікаўлюся палітыкай. Шчыра кажучы, не ведаю.

У старэйшага на пару гадоў за яе хлопца карэспандэнт спытаў:

— Амерыка асацыіруецца з Галівудам, Францыя — з цудоўнай кухняй, Італія — з піццай, Чэхія — з півам ды шклом. А якую асацыяцыю выклікае слова "Беларусь"?

— Асацыяцыю са словам "бядота". Нядаўна яны адлучыліся ад Расіі. Гэта, здаецца, усё.

**Падрыхтаваў У.Панада.**

# Боснія: спрэчкі вакол сімволікі

Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг у час вайны выкарыстоўваліся калабарантамі — гэтым аргументам даўно і паспяхова карыстаюцца тыя, што выступаюць супраць беларускай гістарычнай сімволікі. Але людзі, якія ўжываюць падобныя аргументы, ёсць і ў іншых краінах.

— Усё пачалося з таго, што мы ўбачылі прыкметы адраджэння фашызму ў Харватыі... Калі гэтыя саюзнікі фашыстаў у Другой сусветнай вайне зноў пачалі махаць сцягамі таго часу, сербы зразумелі, што ім пагражае генацыд — сказаў у інтэрв'ю ВВС лідар баснійскіх сербаў.

Гэтага чалавека, які так не любіць нацыянальнай сімволікі харватаў, завуць Радаван Караджыч. Ён і ягоныя паплечнікі заяўляюць: міжнародная супольнасць, якая лічыць агрэсарам у югаслаўскім канфлікце сербскі бок, а пацярпелымі — харватаў, не разумее таго, што гэтыя народы ваявалі ў Босніі як у час апошняй сусветнай вайны, так і па яе сканчэнні і што вайна з харватамі— гэта працяг антыфашысцкага руху.

Але яны не згадваюць пра тое, што з прыхільнікамі незалежнай Харватыі, урад якой і сапраўды супрацоўнічаў з немцамі ў час акупацыі, ваявалі падтрыманыя Масквой сербскія камуністы, якія бачылі Харватыю выключна як частку адзінай кіраванай імі Югаславіі. І сёння баснійскія сербы — як ветэраны той вайны, так і іхнія спадкаемцы — вінавацяць харватаў, якія, змагаючыся за незалежнасць, карысталіся старой сімволікай, у фашызме, нягледзячы на тое, што самі яны са зброяй у руках імкнуцца стварыць на тэрыторыі Босніі уласную дзяржаву — Рэспубліку Сербскую.

Сёння ёсць людаі, якія называюць фашыстамі тых беларусаў, што карыстаюцца нацыянальнай сімволікай. Чаго хочуць яны?

**У.П.**

Першы ў новай гісторыі рэферэндум адбыўся каля 200 гадоў таму ў Злучаных Штатах Амерыкі. Які досвед набылі да гэтага часу арганізатары і ўдзельнікі падобных акцый?

Магчымасць правядзення рэферэндуму прадугледжвалі Канстытуцыі СССР, прынятыя пры Сталіне і пры Брэжневе. Правадыры не мелі сумлеву ў сваёй здольнасці кіраваць свядомасцю масаў.

Пры Міхаіле Гарбачове пераважная большасць грамадзян СССР прагаласавала за захаванне Саюза, а менш чым праз год — за незалежнасць сваіх рэспублік.

У постсавецкіх краінах Сярэдняй Азіі іхнія кіраўнікі ўжо дамагліся практычна нязменнай улады менавіта шляхам рэферэндумаў.

# Голас народа — голас Божы?

У сённяшняй Германіі рэферэндумы не праводзяцца наогул — немцы памятаюць, як большасць народа ўхваліла прыход да ўлады Гітлера.

Дык што ж такое рэферэндум?

Гэта — простае выяўленне волі народа, самы дэмакратычны з усіх прававых інстытутаў. Але ён ператвараецца ў фікцыю, у спосаб легалізацыі аднаасобнай улады ў выпадку, калі большасць грамадзян мае нізкую палітычную свядомасць, не разумее сэнсу яго пытанняў, не ўяўляе вынікаў тых ці іншых на іх адказаў, наогул не разумее мэты правядзення рэферэндуму.

Рэферэндум у такім разе дыскрэдытуе законна абраныя органы заканадаўчай улады. Калі голас народа аспрэчвае голас парламента, апошні губляе свой аўтарытэт. Гэта — моцны ўдар па прававой свядомасці грамадзян.

Вынікам любога рэферэндуму на Захадзе мае быць замацаванне дэмакратыі, бо людзі, маючыя досвед жыцця ў дэмакратычнай краіне, ніколі не будуць галасаваць за канцэнтрацыю ўлады ў руках адной асобы. Але грамадзяне Беларусі такога досведу не маюць ужо таму, што пераважная большасць друку, тэле- і радыёпраграм тут кантралююцца ўладаю і не зацікаўленыя ў прадстаўленні альтэрнатыўных урадавым меркаванняў аб змесце і прызначэнні рэферэндуму.

Колькі ўвагі надаюць заканадаўцы іншых краін голасу народа? Адказам на гэтае пытанне можа стаць прыклад Вялікай Брытаніі, дзе ў 1968 годзе было скасаванае пакаранне смерцю. Парламент краіны адкінуў вынікі сацыялагічных апытанняў, большасць удзельнікаў якіх былі за смяротную кару. Маладасведчаная большасць не мае права вырашаць падобныя пытанні — пастанавілі парламентарыі.

Ці мелі яны рацыю? Магчыма, бо папярэднікам рэферэндуму быў плебісцыт, на якім менавіта плебс — сацыяльныя нізы — выказаў сваю волю. Плебісцыт — аб гэтым сведчыць гісторыя — рабіўся зброяй у руках дыктатараў розных часоў і краін, бо плебс заўсёды пацвярджаў правы дыктатара. Так здарылася, калі Напалеон у адзін дзень прапанаваў народу выказаць свае меркаванні аб канстытуцыі. Папулярнымі былі плебісцыты ў фашыстоўскай Італіі і нацысцкай Германіі, бо прызначэннем іх заўсёды было не вырашэнне складаных праблем, а выказ неабмежаванага даверу да першай асобы дзяржавы.

Дык чым жа стане беларускі рэферэндум, які адбудзецца ў памятны савецкім людзям дзень 7 лістапада — выказам волі народа ці спекуляцыяй на яго палітычнай некампетэнтнасці?

Замежжа

# Свята стваральніка дзяржавы

Імёны пачынальнікаў беларускай дзяржаўнасці не карыстаюцца папулярнасцю ў нацыянальных масмедыя. Як сведчаць апытанні грамадскай думкі, у спіс найбольш папулярных дзеячаў мінулага ўваходзяць не Альгерд ці Гедымін, а Пётр І, Ленін ды Машэраў.

Затое ва Узбекістане — такой жа, як і Беларусь, постсавецкай краіне, сваіх герояў памятаюць. Сёлета ўзбекі адзначаюць 660 гадоў з дня нараджэння Цімура.

На мапе свету Узбекская савецкая сацыялістычная рэспубліка — у значнай ступені штучны твор тамтэйшых і маскоўскіх камуністаў — з'явілася ў 1924 годзе. З гэтага часу яе жыхары павялі адлік сваёй гісторыі, бо дагэтуль, вучылі іх, узбекі не мелі ні гісторыі, ні дзяржаўнасці — адно ханскі прыгнёт.

Сваіх гістарычных каранёў яны пачалі шукаць пасля атрымання Узбекістанам незалежнасці. Доўга рабіць гэтага не давялося: асобаю, якая здаўна прыцягвала ўвагу гісторыкаў не толькі мясцовых, але і ўсяго свету, стаў Цімур, ці, як яго называюць у Еўропе, Тамерлан. Цімур паходзіў з мангольскага (у гістарычным, а не сучасным тэрытарыяльным разуменні) племя. Быў малы ростам і кульгавы. Але гэты чалавек стварыў на мяжы XIV-XV стагоддзяў наймацнейшую ў Азіі імперыю, нашчадкамі жыхароў якой і з'яўляюцца цяперашнія ўзбекі.

Першым крокам да ўзвелічэння Цімура — нацыянальнага героя — стала стварэнне яму коннага помніка, які пару гадоў таму ўсталявалі ў ташкенцкім скверы Рэвалюцыі на месцы, дзе раней стаяў бюст Карла Маркса. Праз нейкі час помнік быў заменены іншым, маючым лепшыя прапорцыі скакуна і, да таго ж, павернутым тварам да прэзідэнцкага палаца.

Неўзабаве адбудуцца галоўныя ўрачыстасці з нагоды юбілею эміра Цімура. Таму цяпер у Ташкенце хутка будуецца музей гісторыі эпохі Цімурыдаў, які адкрыецца ў дзень незалежнасці Узбекістана — І-га верасня. Вялікія ўрачыстасці адбудуцца і ў колішняй сталіцы імперыі

Вось ужо некалькі гадоў на амерыканскія, французскія і расійскія грошы здымаецца фільм пра нацыянальнага героя, але скончаны ён будзе ўжо пасля святкавання.

Акадэмія Навук выдала манаграфію з гісторыі Цімурыдаў. А спецыяльна да юбілею Вялікі акадэмічны тэатр оперы і балета паставіў оперу "Тамерлан", аўтар якой — Георг Фрыдрых Гендаль — таксама зрабіў пасмяротны ўклад у святкаванне.

Сёння постаць Цімура ў вуснах першых асобаў краіны стала сімвалам дзяржаўнасці, справядлівасці, апекі над культурай і мастацтвам, бо той і сапраўды ў свой час быў ініцыятарам стварэння шматлікіх збудаванняў, якія сёння сталі помнікамі гісторыі і культуры. Ён жа, развіваючы імперскую навуку, перасяліў у сваю сталіцу мноства асвечаных людзей з заваяваных ім краін.

Цікава, што святкаванне юбілею Цімура пачнецца не ў Ташкенце, а ў Францыі пад апекаю UNESCO. Прэзідэнт Францыі Жак Шырак ужо перадаў у дар Ісламу Карымаву ліст, які Цімур у свой час скіраваў французскаму каралю Карлу IV.

Краіне не шкада на гэта свята ніякіх сродкаў,— сказаў прэзідэнт Узбекістана Іслам Карымаў на пасяджэнні ўрада.

**Падрыхтаваў У.Панада.**

# Чаму прэзідэнт Клінтан гаворыць так складна

Цяпер многім вядома, што вышэйшым кіраўнікам практычна ва ўсіх краінах свету трымацца перад публікай так, каб падабацца, дапамагаюць спецыялісты: нехта клапоціцца пра агульную рэжысуру, нехта робіць шэфу макіяж, грымам замазваючы непажаданыя дэфекты твару ці выпраўляючы для самавітасці нос, другі шчыруе над прычоскай, як найэфектней укладаючы кожны валасок (вось чаму вялікае начальства так не любіць нечаканых здымкаў фотарэпарцёраў), іншы падбірае касцюмы і гальштукі, яшчэ адзін рэжысёр "ставіць" жэсты адпаведна густаў спадарства, перад якім трэба выступаць, і, бывае, месяцамі адвучвае ад дзіцячай яшчэ звычкі глыбокадумна калупаць пальцам у носе ды паказвае, як трэба хадзіць, садзіцца, уставаць, усміхацца, як пазіраць на чужых дыпламатаў, а як на сваіх надакучлівых папрашаек. Урэшце — як чытаць перад аўдыторыяй ці тэлекамерай тэксты так, быццам усе гэтыя фразы ў начальніцкай галаве нарадзіліся толькі што, а не клапатліва падрыхтаваныя загадзя спічрайтарамі-спецыялістамі, літаратарамі-"ценевікамі". І ўсё бывае гожа, чынна, пакуль начальнік не "завядзецца" і не праявіць прыродны тэмперамент, прыхаваныя надзвычай моцныя жаданні, закладзеныя ў падсвядомасць яшчэ з дзяцінства. Вось тады і даводзіцца ягонай службе ідэалагічнага забеспячэння (божухна, колькі ж корміцца такім чынам увішнага народу каля вялікага ды яшчэ і амбіцыйнага начальніка!) кідацца на "прарэхі", знячэўку зробленыя шэфам у сваім жа дзяржаўным іміджы, і з ангельскім выглядам на хітрушчых тварах растлумачваць грамадскасці, а то і замежным дыпламатам, што іх патрона нехта няправільна пачуў, зразумеў, а сказанае, аказваецца, мае на самай справе сэнс ажно да адваротнага. Такое часцей даводзіцца рабіць тады, калі гэты шэф коснаязыкі ўвогуле, калі лепей разумеюць не ягоны слоўны "фантан", а непрыхаваныя ў запале пачуцці і памкненні.

Але ёсць жа дзяржаўныя мужы, якія нават у эмацыянальна раскаваным стане, нават забыўшыся пра "жалезныя" тэксты высокакласных кудзеснікаў-спічрайтараў, могуць гаварыць настолькі складна і элегантна, што іх прыемна слухаць, нават калі не пагаджаешся з самім сэнсам выказвання. Мэйджар, цяпер ужо нябожчык Мітэран, Коль... Пісьменніца Ада Баскіна неяк у "Известиях" шчыра прызналася, што любіць слухаць Біла Клінтана. "Пра што б ні гаварыў амерыканскі прэзідэнт,— прызналася яна,— нават калі тэма мне зусім не цікавая, я ўсё кідаю і прыліпаю да экрана. Усё спрабую зразумець, як гэта ў яго атрымліваецца такая гаворка: лёгкая, плаўная, у меру тэмпераментная і пры гэтым даволі пераканаўчая. І хай мне тысячу разоў растлумачваюць, што спічрайтарам за так грошы не плацяць, я ўпэўненая, што справа не толькі ў іх".

Канешне, у тым, што некаторыя лідэры ў "натхненні" выходзяць за межы, акрэсленыя ім спічрайтарамі і рэжысёрамі, ёсць таксама іншым разам свой выйгрыш. Тады, калі трэба ўздзейнічаць на малаадукаваны з істэрычнымі схільнасцямі натоўп, асабліва застрашаны папярэдне сацыяльнымі бедамі. Такі натоўп паддаецца чараванню, унушэнню, уздзеянню на псіхіку на ўзроўні падсвядомасці. Гэта прыёмы гіпнозу. На побытавым узроўні ім добра валодаюць цыганкі-гадалкі. Мы маем намер пазней вярнуцца да гэтай тэмы асобна і пастараемся разгледзець сучасныя дасягненні псіхолагаў у сферы разнастайнага ўздзеяння словам. А зараз прадоўжым аповяд пра аратарскае ўздзеянне на свядомасць аўдыторыі, слухачоў без ужывання прыёмаў чаравання, а толькі шляхам доказнасці, перадачы сваіх думак з дапамогай простых для ўспрымання і тым не меней прыгожа пабудаваных фраз. Безумоўна, амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан ад прыроды надзелены дарам красамоўства. Тым не меней ён у дадатак прайшоў добрую школу, аратарскую вывучку. Прычым не толькі амерыканскую. Скончыўшы каледж у ЗША, Клінтан затым не паленаваўся (не пашкадаваўшы грошай, хоць іх даводзілася зарабляць з цяжкасцю) паехаць у Вялікабрытанію і скончыць Оксфардскі універсітэт. Вось чаму, параўноўваючы ягонае аратарскае мастацтва з другім вялікім майстрам і таксама прэзідэнтам — знакамітым Джонам Кэнэдзі, спецыялісты ўсё ж аддаюць перавагу Клінтану, падкрэсліваючы ягоную "еўрапейскую" мяккасць маўлення, прыхаванасць, а то і адсутнасць агрэсіўных інтанацый, спагадлівасць да слухачоў. Хоць апошняе, хутчэй, не выява асаблівай вытанчанасці аратарскага майстэрства, а прыроднай дабрадушнасці характару.

Што да вывучкі прыгожага маўлення, то ў ЗША гэтаму надаецца ўвага нават у звычайных школах, не кажучы пра тое, што ў прэстыжных універсітэтах краіны працуюць спецыяльныя каледжы зносін, кантактнасці.

У звычайнай жа школе з першых дзён вучобы настаўнік абавязаны праверыць вымаўленне дзяцей. Нават невялікае адхіленне ад нормы (а ў маленькіх амерыканцаў, заўважае Ада Баскіна, праблемы часцей за ўсё з шыпячымі і свісцячымі гукамі) — і вучня накіроўваюць да лагапеда. Самы важны прадмет у малодшых класах, працягвае пісьменніца, якая спецыяльна вывучала гэтую тэму,— чытанне ўслых. Як гучыць голас: ці не занадта ціха, але і не задужа мо гучна, ці не мямліць, ці не праглынае гукі.

У сярэдніх класах вучні паступова прывучваюцца выступаць публічна, коратка, але выразна даказваць свой пункт гледжання. Тут ужываюцца розныя спосабы. Напрыклад, абмяркоўваюць праект нечага. Нейкая каманда (група) робіць пэўны праект — па геаграфіі, гісторыі, біялогіі — астатнія пачынаюць яго абмяркоўваць, падмячаючы ў асноўным недахопы. Каманда стараецца абараніць свой пункт погляду. Журы ўважліва сочыць за спрэчкай і аддае перамогу тым, хто выкажа большую доказнасць, знойдзе важкія аргументы і перадасць іх коратка і дакладна. Тэмай для дэбатаў, спрэчак могуць быць самыя розныя бакі жыцця: сям'я, сяброўства, гандаль.

У вышэйшых навучальных установах моўнае навучанне яшчэ больш глыбокае і разнастайнае. Гэтак робіцца не толькі на гуманітарных факультэтах, але і на самых што ні на ёсць тэхнічных. Бо, па-першае, кожнаму ў часе сваёй працы давядзецца потым мець справу з мовай, з уменнем у нечым некага пераконваць, хутка і выразна перадаваць меркаванні партнёрам ці перамагаць у канкурэнцыі.

Але яшчэ адна функцыя ўмельства выразна гаварыць у амерыканскім сучасным грамадстве лічыцца вельмі важнай. "Кожны, у каго ёсць значныя для грамадства ідэі,— гаворыць прафесар Мічыганскага універсітэта і аўтар папулярнага вучэбніка "Мастацтва пераконваць" Беццінгаўзэн,— павінен умець іх выказаць. Прычым выказаць так, каб яму паверылі, за ім пайшлі ці за яго прагаласавалі. Ён павінен выразна гаварыць на мітынгу, па радыё, па тэлебачанні, з асобнымі групамі людзей... Мастацтва пераконваць яшчэ важней, магчыма, у прамысловасці, у гандлі..."

Словам, амерыканцы жадаюць самі пераканаўча і прыгожа выказваць свае думкі і паважаюць тых, хто ўмее гэта рабіць. Таму і ў дэпутаты ў іх таксама ніколі не пройдзе ні пусты балбатун, які ў прамове ліхаманкава пераскоквае з адной цьмянай думкі на другую, ні маўчун з кашай у роце, які толькі ўмее націскаць кнопку машыны галасавання па загаду свайго начальніка ці ўласнага хуткаплыннага эмацыянальнага настрою. Такіх не выбіраюць нават у муніцыпалітэты мястэчак, не тое што ў органы кіравання ў маштабах краіны ці штата.

**Ул.АСІНАВЕЦ.**

*Уражанні*

## Даруй ім, сяржант!

Прыводзячы ў парадак магілку нядаўна памерлага бацькі, я не мог не звярнуць увагі на невысокі шэры помнік-абеліск, што стаіць непадалёк. Не столькі сам абеліск прыцягнуў маю ўвагу, як фотакартка на ім, уробленая пад шкло. З яе на мяне глядзеў зусім яшчэ малады хлопец з далікатнымі абрысамі твару, усмешлівы, адкрыты позірк, на пагонах — па тры пасачкі сяржанта міліцыі. Падалося, што недзе я ўжо бачыў гэтага сяржанта. А потым успомніў: некалі трапіла мне на вочы фотакартка ў адной газеце і артыкул. Малады міліцыянер загінуў, ратуючы жыццё тром хлапчукам, якія танулі ў адным з прыгарадных кар'ераў. Дзяцей выратаваў, а на сябе моцы ўжо не хапіла...

Праз нейкі час я стаў сведкам, як на вуліцах Менска міліцыя збівала людзей. Малюнкі гэтага жудаснага відовішча і дагэтуль паўстаюць перад маімі вачыма...

Натоўп лямантуе і калышацца, заціснуты гмахамі шматпавярховак і бранiраванымі шэрагамі АМАПа. Прыкрыўшыся доўгімі прамавугольнымі шчытамі, амапаўцы сціскаюць у руках чорныя гумавыя палкі-"дэмакратызатары" і несупынна малоцяць па галовах, плячах і спінах дэманстрантаў, адціскаючы іх некуды ўглыб вуліцы. Я бачу, як нейкага хлапчука павалілі долу, выцялі некалькі разоў дубінкамі, пацягнулі і кінулі ў "варанок". Па шэрым брудным тратуары некалькі міліцыянтаў за рукі і валасы цягнуць немаладую жанчыну...

Гляджу на чырвоныя, спацелыя, укормленыя за народныя грошы твары, раз'юшаныя, амаль непрытомныя ад шаленства вочы і... не адчуваю нават пачуцця, якое павінна было абудзіцца ў маёй душы. Там толькі звініць нейкае шчымлівае пачуццё жалю да гэтых апранутых у амапаўскую форму хлопцаў. А перад вачыма паўстае вобраз таго сяржанта на абеліску. Міжволі спрабую і не магу ўявіць яго з азвярэлым, раз'ятраным выразам на твары, які малаціў бы чорнаю дубінкаю безабаронных людзей, сваіх суайчыннікаў. Няўжо смерць і сапраўды забірае лепшых? Я гляджу на крывавую калатнечу і слёзы засцяць мне вочы. Што зрабілі з вашым розумам і сумленнем тыя, хто паслаў вас сюды збіваць свой народ? Што з вамі зрабілі яны, схаваўшыся за вашы моцныя, шырокія спіны? Што яны з вамі зрабілі?!

Даруй ім, сяржант, даруй, калі зможаш...

**Валерый ЛАРЧАНКА,**
**студэнт журфака БДУ,**
г.Слуцк.

Супрацоўнікі і рэдакцыйная калегія "Нашага слова" выказваюць глыбокае спачуванне рэдактару аддзела газеты Аніськовічу Уладзіміру Ігнатавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ.

# Кола сям'і



Пяцьдзесят гадоў пражылі сумесна Дар'я Мацвееўна і Пётра Міхайлавіч Альшанікавы з Віцебска. Залатое вяселле не проста спявала і танчыла — яно ў павучанне маладым, якія апошнім часам часта разводзяцца, праходзіла ў Палацы ўрачыстых абрадаў. Віноўнікаў урачыстасці, якія паспелі стаць прадзядулем і прабабкай, віншавалі як афіцыйныя асобы, так і іх сябры, знаёмыя, блізкія.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## Веру, што ўнук вернецца беларусам

Хачу паведаміць вам, як з дапамогай вашай газеты я разгадала нашу сямейную таямніцу. Справа вось у чым. Два гады таму наш унук, жывучы з бацькамі ў Расіі, пачаў размаўляць. Факт звычайны, нармальны, калі б не вымаўленчы эфект. Усіх вельмі здзіўляла яго беларускае вымаўленне: "я ўпаў, мама казала, сьнег ідзе" і г.д. Калі ўнук прыехаў да нас і я пачула гэтае для мяне бясконца любае вымаўленне, мільганула думка: "А можа я — прычына?" Я нікому нічога не казала, бо занадта смешным і недарэчным здалося б тлумачэнне, што калі немаўляці было 5-8 мес. (такі час яно было ў нас), тады дзіця і "вывучыла" беларускую мову.

І вось, прачытаўшы ў "Коле сям'і" артыкул "Пасля трох ужо позна", я ўпэўнілася, што немаўля засвоіла мову менавіта ў той час. Так, я напявала яму толькі беларускія калыханкі, радыё ў тыя часы было сапраўдным аазісам беларускасці. Тады мы чулі цудоўнейшую беларускую гаворку Станіслава Шушкевіча, Зянона Пазьняка, Ніла Гілевіча, "Беларускую маладзёжную" ды іншых сяброў ТБМ. Мне здаецца, што тады наогул лічылася прыстойным размаўляць на роднай мове краіны (не тое, што зараз). І яшчэ адзін доказ таму, што ён памятае свае 5-8 мес. Неяк Віталік папрасіў мяне: "Бабулечка, праспявай мне песеньку". Я адказала, што вельмі дрэнна спяваю і нават не ўмею. "Не, бабулечка, ты так добра спяваеш" — запярэчыў мне Віталік. Значыць, ён памятае мае калыханкі.

Зараз у нас з ім такія моўныя адносіны. Нам вельмі падабаецца размаўляць на беларускай мове. Купіла яму касету з беларускімі народнымі казкамі і ён са сваімі сябрамі з задавальненнем іх слухае. Адначасова робім пераклады на расійскую мову. Можа і было б усё добра, але ж хутка яны з маці ізноў паедуць у Расію, да таты. Такое ўжо жыццё, што на нашых "запушчаных" заводах бацькі не могуць зарабіць на кавалак хлеба.

Усё ж я ўпэўнена, што дзе б ні быў наш Віталік, але ж вернецца ён на Радзіму-Беларусь годным яе Грамадзянінам і родную мову сваёй краіны будзе ведаць і шанаваць.

**Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ,**
г.Гомель.

***Масару ІБУКА***

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Дзіця лепш пахваліць, чым аблаяць

З двух метадаў — ухваленне і пакаранне — апошні здаецца больш дзейсным, але гэта не зусім так. Пакаранне можа выклікаць у дзіцяці супрацьлеглую рэакцыю — адкрытага непадпарадкавання. Справа ў тым, што і ўхвалай, і пакараннем трэба карыстацца вельмі асцярожна.

Уявіце сабе маці, якая нясе да стала шклянку соку. Яе малеча, якому ўжо хочацца ва ўсім пераймаць маці, спрабуе зрабіць тое ж самае. А маці кажа: "нельга" і кідаецца да яго ў жаху, што ён пральe сок. Гэта няправільна. Яна ж і папракне пасля дзіця, калі яно падрасце, што яно ёй не дапамагае. Нават калі дзіця хоча зрабіць нешта, што яму яшчэ цяжка, лепей пахваліць яго: "Які ты ў мяне вялікі зрабіўся", затым адліць крыху соку і даць яму данесці шклянку. Такі падыход вельмі важны.

Неяк доктар Сузукі расказаў мне пра вучня, якога сустрэў у правінцыйнай музычнай школе. Дзіця лічылася зусім безнадзейным. Яно грала на скрыпцы жахліва, ніхто не мог дапамагчы яму. "Ты пайграеш мне?" — спытаў доктар Сузукі. Гэта было вельмі кепскае выкананне, але доктар пахваліў дзіця: "Цудоўна, цудоўна",— і дадаў: "А я граю гэта так. Як ты думаеш, у цябе атрымаецца гэтак жа?" — "Атрымаецца",— адказаў хлопчык і зноў узяўся за скрыпку, стараючыся з усіх сілаў. І як ні дзіўна, у яго пачало атрымлівацца лепш.

Высветлілася, што апошнім часам небараку толькі лаялі, а ён прагнуў падтрымкі, ухвалы. Доктар Сузукі лічыць, што з дзецьмі нашмат лягчэй, калі не ганіць іх, а хваліць.

Зразумела, бываюць выпадкі, калі неабходна і палаяць і прымусіць, але, разам з тым, лепш у цяжкой сітуацыі даць дзіцяці магчымасць выбару ці паспрабаваць пераканаць яго. Калі малое рве газету, якую вы яшчэ не прачыталі, замест таго, каб проста адабраць яе ў яго ці стукнуць яго па руках, можна падсунуць яму старую газету. Калі гэтага не зрабіць, а проста адабраць, вы прыгасіце ў ім вельмі важны імпульс да дзейнасці, ды яшчэ і забераце прадмет, які яму цікавы, пакінеце яго без справы. Калі вы не можаце прапанаваць дзіцяці ніякай альтэрнатывы, трэба, па меншай меры, растлумачыць, чаму чагосьці рабіць нельга. Можа, яно і не зразумее вашага тлумачэння, але яно пачуе ноту перакананасці ў вашым голасе, і гэта на яго паўплывае станоўча.

### Частка 4. Прынцыпы выхавання

### 1. Стымуляванне і імкненне да парадку

#### Інтарэс — лепшае пабуджэнне

Двух і трохгадовых дзяцей часта супраць іх волі кожны дзень прыводзяць за руку на ўрокі скрыпкі да доктара Сузукі. Яны з цікавасцю азіраюцца, скачуць і гарэзнічаюць у калідоры і зусім не цікавяцца скрыпкай. Калі бацькі спрабуюць прымусіць іх вучыцца музыцы, усе спробы заканчваюцца слязьмі і істэрыкамі. Дзеці пачынаюць ненавідзець скрыпку. Іх бурная рэакцыя тлумачыцца тым, што ў гэтым узросце ў іх прачынаецца самасвядомасць і пачуццё ўласнага "Я", якое не церпіць ніякага гвалту.

Таму спачатку доктар Сузукі дазваляе дзецям рабіць усё, чаго яны хочуць, але не дапускае іх блізка да скрыпкі. Вельмі хутка маленькі навучэнец супакойваецца і з задавальненнем назірае, як іграюць іншыя дзеці. На працягу двух-трох месяцаў дзіця добра запамінае ўжо п'есу, якую іграе яго таварыш, і вось яму ўжо таксама хочацца паспрабаваць. Настаўнік чакае, каб нецярплівасць дзіцяці дасягнула апагею, і толькі тады дае яму першы ўрок. Перыяд падрыхтоўкі ва ўсіх дзяцей розны. Самы доўгі — 6 месяцаў.

Галоўны прынцып метаду доктара Сузукі — выклікаць "цікавасць", а гэта найлепшае пабуджэнне. Згодна яго меркаванню, прымус — горшы спосаб навучання. Калі ў дзіцяці ўзнікае цікавасць да скрыпкі, яно робіць большыя поспехі ў кароткі час, часам пераўзыходзячы любыя спадзяванні настаўніка. Выклікаць цікавасць дзіцяці да прадмета навучання — гэта і ёсць лепшы педагагічны метад. Таму галоўная задача бацькоў, калі яны жадаюць навучыць нечаму дзіця,— абудзіць інтарэс. Так, напрыклад, замест таго, каб вучыць дзіця лічыць, лепш зацікавіць яго лічбамі. Замест таго, каб вучыць яго пісаць, абудзіце яго інтарэс да працэсу пісьма. Іншымі словамі, задача бацькоў — падрыхтаваць дзіця да навучання.

Каб выклікаць гэты інтарэс, важна стварыць і неабходныя ўмовы. Напрыклад, для таго, каб у дзіцяці з'явілася жаданне маляваць, вакол яго павінна быць дастаткова алоўкаў і паперы. Дарэмна чакаць, каб у малечы з'явілася жаданне да чагосьці, калі ўмовы для гэтага не створаны.

Многія дарослыя, раўнадушныя да музыкі ці жывапісу, могуць пацвердзіць, што прычынай іх нелюбові быў прымус у раннім узросце або адсутнасць умоваў для ўзнікнення інтарэсу.

*(Працяг будзе.)*



**Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!**

***Францішак Багушэвіч***

***Вучымся***

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## У газеце

*(Заканчэнне.)*

Глабальная праблема льнаводства Віцебшчыны з'яўляецца збегам многіх акалічнасцяў аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару, пра якія аўтар Алесь Касцень расказвае стылем гнуткім і рухомым, афармляючы свае довады і назіранні ў публіцыстычны твор з рознажанравымі прыметамі (артыкул, агляд, замалёўка, нататкі-водгук) — адпаведна маштабу абагульнення, важкасці вывадаў, суадносінам лагічнасці і эмацыянальнасці ў форме выкладу і развіцця канкрэтных тэзісаў.

Пасля аналізаванага намі (у папярэдняй размове) ўступу змешчаны довады абагульненага аб'ектыўнага зместу, заснаваныя на рэальных статыстычных лічбах, якімі пацвярджаецца значнасць і дарэчнасць гэтай галіны гаспадарання: **А, між іншым, Віцебшчына павінна даваць ледзь не трэць усяго льновалакна рэспублікі, тут размешчаны 21 з 54 ільнозаводаў па першаснай перапрацоўцы сыравіны, тут жа знаходзіцца гігант галіны — Аршанскі льнокамбінат. І ў многім становішча ў ільнаводстве ў гэтай вобласці вызначае становішча ў рэспубліцы.**

Гэты агляд патрэб і магчымасцяў абласной гаспадаркі напісаны строгай мовай. Эмацыйнасць прыхавана ў пабочнай канструкцыі **між іншым**, дзе перададзены не толькі зацікаўленасць аўтара, але і яго кампетэнтнасць, лёгкая іронія, дакор. Найбольшыя эмоцыі сканцэнтраваны ў спалучэнні **гігант галіны** — характэрным для публіцыстыкі стандартным устойлівым выразе. Як заўважае М.Я.Цікоцкі, "некаторыя сучасныя даследчыкі мовы газетнай публіцыстыкі выказваюць думку аб асаблівай рухаючай сіле публіцыстычнага стылю, якая ўзнікае ў выніку пастаяннай барацьбы паміж дзвюма процілеглымі тэндэнцыямі — імкненнем да стандартызаванасці, штампаванасці ў мове, з аднаго боку, і максімальнай экспрэсіўнасці, "жывасці" выкладу, з другога".

Індывідуалізацыя, імкненне да арыгінальнай формы заўважаецца ў аўтабіяграфічных замалёўках, у якіх творчая асоба аўтара раскрываецца ў прафесійным плане: **Сваю працоўную біяграфію я пачынаў у 1972-м рабочым сыравіннага цэха Пастаўскага льнозавода. Тады, у верасні-кастрычніку, калі ў поўным разгары была нарыхтоўка льнотрасты, шмат давялося пабачыць на тэрыторыі льнозавода вясковых жанчын сталага веку, маладзейшых.** Такія ўспаміны напрамую падводзяць да важнай высновы пра адказнасць чалавека за сваю працу, пра асаблівую дбайнасць, рупнасць і ўменне жанчыны — гаспадыні-працаўніцы: **Але ж і прадукцыю прывозілі жанчыны! Лён чысты, доўгі, снапочкі роўныя, як на падбор.**

У цытаванай кампазіцыйнай частцы артыкула шмат ацэначнай лексікі — **чысты, доўгі, роўныя**. Эмоцыі задавальнення, захаплення ўкладзены ў слова з суфіксам суб'ектыўнай ацэнкі — **снапочкі**, у клічную канструкцыю — рытарычны вокліч. Чытач выразна ўяўляе ідэальную, паводле аўтарскіх назіранняў-успамінаў, асобу гаспадарання, а з наступнай заўвагі робіць вывад пра найбольш удалую форму гаспадарання: **Нешта не чуў я, каб дзе-небудзь у вобласці вырошчваннем ільну вырашыў заняцца фермер, арандатар. Не тая гэта культура. Патрабуе шмат і сродкаў, і працы. Так што ўсе надзеі на адраджэнне гэтай галіны можам звязваць з калектыўнымі гаспадаркамі.**

Як бачым, стыль артыкула вызначаецца прачулым успрыняццем праблемы, уласным вопытам аўтара (не толькі журналісцкім, але і працоўным, рабочым). Патрабаванне вырашыць гаспадарчыя справы ўвасоблена ў заключным пытанні артыкула, якое вызначыла і яго назву: **Дык ці будзе нас радаваць лён? Не сёння і заўтра, калі змяніць ужо нічога нельга, а ў будучым?** Адказ на гэта пытанне аўтар чакае ад грамадства.

***Практычная стылістыка***

# Пра супярэчнасць і супрацьлегласць

"Зямля да жудасці шчодра паліта крывёю" — гэты сказ з абітурыенцкага сачынення на ваенную тэму з'яўляецца даволі няўдалым пераасэнсаваннем устойлівага выразу **зямля шчодра паліта потам.**

У беларускай літаратуры і публіцыстыцы трывалай, глыбокай традыцыяй стала ўслаўленне спрадвечнай адданай працы земляроба, што звязана з трапяткім пакланеннем жыццядайнай сіле зямлі — важнай праявай беларускай ментальнасці, істотнай рысай нацыянальнага характару. Вайна ж для нашага, дый для кожнага, народа — вялікая трагедыя, якая нясе смерць і страты, боль і горыч. Жыццё і смерць — паняцці ўзаемавыключальныя, таму звязаныя з імі слоўныя абазначэнні маюць яркую, стылёва значную ацэначнасць. Незвычайным па сіле вобразнага ўздзеяння выступае разгорнутае метафарычнае параўнанне смяротнай бітвы з дзеяй земляроба ў "Слове пра паход Ігаравы": **На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, веюць душу ад цела** (Гэты твор разглядаўся намі ў артыкуле "Пачутае душою" — НС 1995, № 52). Такое супастаўленне выразна перадае ўяўленне аўтара пра недарэчнасць, згубнасць войнаў.

У аналізаваным жа сказе з сачынення новая спалучальнасць і ўключэнне ў кантэкст ацэначнага слова **да жудасці** выклікаюць стылёвую, эмацыйную супярэчнасць. Станоўчую, жыццесцвярджальную, аптымістычную ацэначнасць нясе слова **шчодра**, утворанае ад прыметніка **шчодры**, прамое і пераноснае значэнне якога ТСБМ раскрывае наступным чынам: 'Які ахвотна дзеліцца з другімі грашыма, маёмасцю/ Які лёгка, з ахвотай аддае, раздае што-небудзь, надзяляе чым-небудзь'. Падтрымлівае, умацоўвае такую станоўчую значнасць фразеалагізм **шчодрай душой** — 'не шкадуючы'. Значыць, не варта, гаворачы пра трагізм вайны, вялікія страты, смерць, кроў, ужываць слова **шчодра**. Сутнасць вайны выразна засведчыць спалучэнне **(зямля) заліта/ затоплена крывёю.** Дзеепрыметнікі **заліта і затоплена**, абазначаючы найбольшую ступень праяўлення прыметы, у пераносным значэнні даюць выразнае ўяўленне пра жудасную сутнасць вайны.

На спалучэнні слоў з супрацьлеглым значэннем заснаваны стылістычная фігура **аксюмаран (аксюмарон)** з яркім экспрэсіўным эфектам: **святая ярасць, журботны жарт, шчаслівая смерць, беспрасветны смех, вясёлая журба, добры жаль.** Такое парадаксальнае аб'яднанне дае новае ўяўленне пра рэчаіснасць, заглыбляе філасофскую аснову выказвання: **Бывае цёплы халадок і бывае халоднае цяпло — у прыродзе, у чалавечых сэрцах** (Іван Шамякін); **...Эх! Іграй жа той, хто можа: плакаць будзе весялей** (Янка Купала); **Салодкі смутак напаўняе душу маю, нібы келіх чыстай крынічнай вадою** (Змітрок Бядуля); **Горкі і беспрасветны смех у дзядзькі Сцяпана. Кароткімі сутаргавымі рыўкамі** (Янка Брыль).

У такіх спалучэннях нараджаецца новая ацэначнасць, складаная эмацыйнасць, якая перадае супярэчныя пачуцці, парадаксальнасць жыцця, розныя пасылкі ў філасофскіх высновах. У іх няма стылёвай супярэчнасці, якую трэба ўмець заўважаць і пазбягаць.

***З гісторыі красамоўства на Беларусі***

# "Три чести.."

Звесткі пра вырашэнне міждзяржаўных гандлёвых канфліктаў змяшчае Грамата палачан лівонскаму магістру пра свой намер вярнуць тавар і палонных купцоў: ***Мы, полочане, даемъ вам вѣдомо, кто сю грамоту оузрит, што же местерь задвиньскии отпустилъ нятьци*** [палонных] ***полоцьки и товар на рукы князя великого Витовта и наши руки, и мы тыи нятьци и товар, которых местерь отпустил до Полочьска, местерю слюбуемь поставити при чести и при вере без всякое хитрости в ть час, коли тотъ местерь к нам свою грамоту пошлет о тыхъ нятьцехъ.***

***А писано оу Полочьку оу канунъ святого Михаила архистратига лѣта тысяча Д ста іД.***

Гэтае абяцанне палачан паступіць з вінаватымі па справядлівасці, улічваючы жаданне пацярпелага боку, напісана высокім афіцыйным стылем, з дэталізацыяй падзей, пры якой паўтараюцца найбольш істотныя рэаліі — ***местерь, отпустилъ, нятьци, товар, на руки, грамоту***. Ужытыя складаныя дзеяслоўныя канструкцыі перадаюць паважнае стаўленне да рыжскіх уладаў: ***даемъ вам ведомо; слюбуемь поставити***. Дакладна і нешматслоўна, аднак рашуча і без ваганняў сфармуляваны падставы рашэння — ***при чести и при вере без всякое хитрости***.

Змест і стыль граматы сведчаць пра ўсведамленне беларускім бокам велікадушнасці пацярпелых, асуджэнне вінаватых суайчыннікаў, жаданне, вычарпаць канфлікт.

Даследнікі адзначаюць уплыў на грамату лацінскіх і нямецкіх дакументаў. Заўважаючы разыходжанні ў назве горада ***(Полочьска, Полочьку)***, гавораць пра беларускі ўплыў у яго афармленні.

Выклікае пытанне і дата граматы, у якой, паводле традыцыі, лічбы пазначаны адпаведнымі літарамі: Д — 4, і — 10, аднак большасць даследнікаў схіляюцца да лічбаў 7 лістапада 1404 года, лічачы літару і злучнікам, бо лічба 14 павінна была быць напісана ў адваротнай паслядоўнасці: Ді. Да месца будзе і прыгадаць, што ў старажытнай беларускай і расійскай мовах ужываліся абедзве літары: **и** ды **і**, якія абазначалі розныя лічбы (и — 8, і — 10). Цяпер адна з іх ужываецца ў беларускім алфавіце, а другая — у расійскім.

***Да 400-годдзя Берасцейскай уніі***

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Падзеі 1596 года і дзейнасць Пятра Скаргі

1596 год стаў лёсавызначальным для злучнасці Кароны і Княства. Эканамічны саюз у Любліне (1596 г.) быў падмацаваны уніяй рэлігійнай у Бярэсці. У палемічнай літаратуры пры падтрымцы і пратэктараце ўлады пачынае пераважаць уніяцка-пракаталіцкі кірунак, хаця большасць высокамастацкіх твораў у гэты перыяд напісана прадстаўнікамі менавіта праваслаўнай плыні (Афанасій Філіповіч, Хрыстафор Філалет, Мялецій Сматрыцкі, Лявонцій Карповіч і інш.).

На думку даследнікаў, адной з буйнейшых постацяў залатога веку польскай літаратуры езуіцкага перыяду, бязумоўна, з'яўляецца апалагет і ідэолаг уніі Пётр Скарга, сапраўднае імя Пётр Павэнзкі, які служыў адной галоўнай ідэі і страсці — выратаванню Польшчы шляхам ачышчэння і аскезы. Сучаснікі сцвярджалі, што ў бытнасць Пятра Скаргі прыдворным гамілетам, праз яго рукі праходзілі немалыя грошы, але ён ахвяраваў іх на бедных і на палітычныя мэты. Сам Павэнзкі жыў у строгай аскезе, у цеснай манашаскай келлі, адмаўляючы сабе ў элементарным чалавечым дабрабыце. На яго думку, выратаваць Польшчу ад пагібелі маглі толькі каталіцызм і унія. Відаць, усходнеславянскае паходжанне Пятра Скаргі (нягледзячы на тое, што ён лічыцца дваранінам мазавецкім, радавод яго бярэ свой пачатак з Чырвонай Русі, Львоўшчыны) падтрымлівала ў яго свядомасці ілюзію уніі. Выказваюцца меркаванні, што Пётр Скарга не быў па крыві палякам, і таму ён не адчуваў, якая вялікая розніца паміж арганізаванай на еўрапейскі, трохі анархічны, лад дэмакратыяй Кароны, дзе асноўнай сілай была шляхта, і пранаўгародскай, масцітай вольнасцю магнатаў, кіраўнікоў гаспадарства ВКЛ. Яго нават не напалохаў рокаш, узброенае паўстанне на чале з кракаўскім ваяводаю Зебржыдоўскім, асноўным патрабаваннем якога было — удаліць езуітаў з Польшчы. У гэтым процістаянні Пётр Скарга нібыта перамог, але небяспека уніі, заняпад Кароны і Княства ўжо тады былі відавочныя. Акрамя палемічных твораў (Siedm filarów, na których stoi katolicka nauka, 1582; Wzywanie da jednej zbawiennej wiary; Zawstydzenie nowych aryanów, Kraków, 1608; Messiasz nowy aranów wedle abkoranu tureckiego, Kraków, 1612), Скарга вядомы і як таленавіты духоўны пісьменнік-белетрыст, жыція каталіцкіх святых у яго рэдакцыі вытрымалі 25 выданняў і былі надзвычай папулярныя сярод вернікаў заходняга абраду. 18 разоў з нагоды важнейшых палітычных падзей выступаў Пётр Скарга перад сеймам, "тыранам душ чалавечых" называлі яго апаненты. Здавалася, Павэнзкі дажыў да поўнай перамогі сваіх ідэй. Памёр ён у 1612 годзе (на 76 вясне свайго жыцця) ў Кракаве. Але гэта была ўяўная, Пірава перамога. Ужо ў свой час Пётр Скарга прадчуваў будучы незайздросны лёс Польшчы і Княства, засцерагаў сучаснікаў ад анархіі ў дзяржаве: "Вы сцвярджаеце, што Польшча трымаецца на безуладдзі (nierzadem). Але вы не разумееце, што нельга трымацца на безуладдзі, бо гэта супярэчыць розуму. Ад безуладдзя і безклапотнасці ўсё валіцца і падае, а так як безуладдзе вынікае са слепаты грахоўнай, то выходзіць, што Польшча трымаецца грахамі, і пазбягае неяк Божай кары". (8-е Kazanie Seimowe. Wzywanie do pokuty). "Нападзе на нас вораг знешні, скарыстаўшыся вашымі спрэчкамі, скажа: падзяліліся сэрцы іх, цяпер і яны загінуць. Гэтыя спрэчкі давядуць вас да палону, у якім усе вольнасці вашыя патонуць і зробяцца смешнымі." (3-е Kazanie Seimowe).

*Алесь КАЎРУС*

# Рыцар з правінцыі Ламанча

Амаль чатыры стагоддзі назад у Іспаніі з'явіўся мастацкі твор, якому было наканавана стаць сусветна вядомым. Добра ведаюць гэты раман і ў нашай краіне. А вось у перадачы яго назвы па-беларуску да апошняга часу няма адзінства.

У першым расійскім перакладзе (1769) раман меў назву "Ламанхский рыцарь Дон Кишот". Цяпер гэты твор Сервантэса на расійскай мове называюць "Хитроумный идальго Дон Кихот Ламанчский", скарочана — "Дон Кихот".

На роднай мове беларусаў ён выйшаў у свет у 1935 годзе пад назваю "Дон-Кіхот Ламанчскі". Пераклад зроблены з расійскага тэксту. Відавочна, адтуль перанесена слова *Ламанчскі*. У такой форме яно ўжыта і ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (т.9, с.496): "Вяршыня творчасці Сервантэса — раман "Хітрамудры ідальга Дон Кіхот **Ламанчскі**" (1 ч. 1605, 2 ч. 1615)".

Нядаўна ў газеце "Наша слова" у нумарах за 1 і 8 лютага 1995 года былі надрукаваны ўрыўкі з новага перакладу рамана Сервантэса, які ажыццявіў з іспанскай мовы Якуб Лапатка. Тут ужо чытаем "Хітрамудры ідальга Дон Кіхот **Ламанчаскі**".

Варыянты слова з літарай *ч* (*Ламанчскі, Ламанчаскі*) падтрымліваюцца імкненнем захаваць больш адкрытай сэнсавую сувязь прыметніка з каранёвай часткай назоўніка ***Ламанч-а***.

Аднак гэты семантычны фактар не можа быць падставай, каб ігнараваць правіла беларускага словаўтварэння, якое сцвярджае: "Калі ўтваральная аснова слова канчаецца на *к, т, ц, ч*, а суфікс пачынаецца зычнай *с*, тады злучэнні *кс, тс, цс, чс* на пісьме перадаюцца праз *ц*" ("Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", Мн., 1959, с.37).

Для ілюстрацыі правіла прывядзем нарматыўныя прыметнікі, што змешчаны ў "Арфаграфічным слоўніку" М.Лобана і М.Судніка: *азарыцкі* (ад *Азарычы*), *вайгацкі* (ад *Вайгач*), *свіслацкі* (ад *Свіслач*), *унецкі* (ад *Унеча*), *ургенцкі* (ад *Ургенч*). Апошні прыклад асабліва паказальны, бо тут у назоўніку ёсць канцавое злучэнне зычных *нч*, як і ў назве *Ламанча*.

Значыць, у адпаведнасці з беларускім словаўтварэннем прыметнік заканамерна набывае форму *Ламанцкі*: Дон Кіхот **Ламанцкі** быў закаханы ў выдуманую ім Дульсінею (ЛіМ. 31.05.96).

Слова *Ламанцкі* ўспрымаецца як дакладны адпаведнік расійскага *Ламанчский*.

Зрэшты, магчымыя варыянты *Ламанчаўскі*, *Ламанчанскі*. Варыянтнасць прыметнікаў, як і іншых часцін мовы,— з'ява досыць пашыраная. Так, напрыклад, у ліпені-жніўні гг. часта можна было пачуць праз маскоўскае радыё і тэлебачане (гаворка ішла пра чачэнскія падзеі) выраз *назранские соглашения, назрановские соглашения*. Адпаведна беларускія сродкі масавай інфармацыі перадавалі: *назранскія пагадненні, назранаўскія пагадненні*.

## *Сказана*

Я глыбока перакананы, што грамадскае прызначэнне пісьменніка — быць свайго кшталту месіяй, правадніком жыцця, бо без уздзеяння жывой вобразнай народнай мовы літаратара-майстра на грамадства яно становіцца аморфным, губляе такія важныя якасці для выжывання, як творчае ўяўленне і перспектыўнае мысленне. Менавіта пісьменнікі — майстры мастацкага слова ўносяць ў грамадскае жыццё неацэнны дар — багацце роднай мовы. Без чаго аніякія візуальныя сродкі (накшталт тэлебачання і т.п.) не ў сілах дапамагчы грамадству ясна ўявіць перспектыву развіцця свайго народа хаця б на бліжэйшую будучыню.

**Карлас ФУЭНТЭС,**
**вядомы мексіканскі раманіст, класік сучаснай лацінаамерыканскай літаратуры.**



# Кіна-відэа-аўдыё-шоў-навіны

## Навечна ў памяці народнай



Музычная відэатэка беларускага меламана складаецца пакуль (калі не лічыць самаробных запісаў на звычайныя бытавыя касеты) толькі з выданняў замежных фірмаў, сярод якіх вылучаецца прадукцыя такіх гігантаў шоў-індустрыі, як "Warner Home Video", "Real World Productions", "Picture Music International" і г.д. Іхнія відэакніжкі ("Pet Shop Boys" — "Perfomance", "AC/DC" — "Let There Be Rock", Peter Gabriel — "CV" ды іншыя) добра вядомыя заўсёднікам спецыялізаваных крамаў і пракатных салонаў не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце (нават у тых краінах, дзе ў адрозненне ад нас ёсць свая прадукцыя падобнага кшталту).

І вось акурат на фірме "PMI" ("Picture Music International") у папулярнай серыі "Video Collection" сусветнавядомая амерыканская трэш-металёвая каманда **"Metallica"** (на здымку) выдала чарговую сваю праграму, якая парадуе і беларускіх фэнаў жорсткай меладычнай музыкі, і простых нашых абывацеляў, заклапочаных стварэннем у сваёй сям'і выхаваўчага нацыянальна-патрыятычнага асяроддзя.

У праграму гэтай відэакалекцыі ўключаны даробак **"Металікі"** за першую палову 90-х гадоў: кліпы, фрагменты канцэртных выступленняў у розных кутках планеты, студыйныя напрацоўкі.

Не, мы зусім не будзем сцвярджаць, што на той касеце ёсць менскі канцэрт "Металікі", дзе гурт выконвае трэшавую версію славутай нашай "Пагоні", бо ўсім вядома, што на задворкі імперыі нічога лепш за Таню Буланаву не закідваюць.

Затое на сумна вядомым канцэрце "Металікі" ў Маскве на Тушынскім лётнішчы 28 верасня 1991 года беларускія фанаты калектыву засведчылі сваю прысутнасць ганарлівым рэем вялізнага бел-чырвона-белага сцяга.

Мільённыя тыражы відэакалекцый "PMI" прымусяць задумацца фанаў "Металікі" ў Нью-Йорку і Парыжы, Капенгагене і Мадрыдзе: хто ж гэта намагаецца выказаць сваё "Я" побач з іншымі народамі свету (відэакамера выразна выхапіла над морам слухачоў акрамя беларускага яшчэ амерыканскі і латышскі сцягі)?

Дзякуючы відэакалекцыі "Металікі" на "PMI" і самі беларусы змогуць не забыць свой гістарычны сімвал у цяперашняе бяспамятнае міжсезонне.

## Магнат і антымагнат, кіно і антыкіно




Новыя часы — новыя тэмы для мастацтва. Пераход ад сацыялізму да капіталізму вывеў у герої новы клас "новых", г.зн. багатых. Нічога не скажам супраць, але тое, як адлюстроўваецца новы аб'ект увагі ў розных жанрах беларускага мастацтва, толькі пацвярджае старую ісціну: калі ў беларускай літаратуры, журналістыцы яшчэ неяк жыла Беларусь, то беларускае кіно, у першую чаргу, было яўна не беларускім. І вось прыклады.

9 ліпеня г.г. ў Менску прайшла прэм'ера дакументальнага фільма Мікалая **Князева** і Уладзіміра **Мароза "Игры на заснеженном поле"**. І хоць гэта фільм пра нашых землякоў, маладых беларускіх бізнесменаў Андрэя Клімава і Аляксандра Шуліна, беларускага тут толькі адно — назва кінастудыі "Беларусьфільм". І тое напісаная не панашаму. А ўвогуле наша роднае слова не гучыць тут ні з вуснаў герояў карціны, ні з вуснаў стваральнікаў.

Ну што ж, цяжка знайсці бізнесмена з Беларуссю ў сэрцы. Як, дарэчы, і кіношніка.

А вось журналісты знайшлі. Прычым тыя, замежныя. І ў нас знайшлі. Яшчэ ў сакавіку 1994 года польска-беларускі двухмоўны штомесячнік **"Czasopis"** апублікаваў нарыс беластоцкага журналіста Ежы Хмялеўскага "Магнат" (гл. фота), дзе расказваў пра імклівую кар'еру нашага земляка бізнесмена Алеся Гуркова. Вось гэта сапраўдны беларускі магнат, юнацтва якога добра памятаюць тыя, хто ў часы таталітарнага камуністычнага прэсінгу гуртаваўся ў першых нацыянальных суполках "Майстроўня", "Талака", "Паходня", "Узвышша", "Край"... Пра Беларусь думае Алесь Гуркоў і сёння, з-за чаго й не стане ніколі аб'ектам увагі тутэйшага кіно.

## ... І да маўклівага вернецца мова

Калі ў Атланце (ЗША) распачыналася **Алімпіяда-96**, дык у Гарадку пад Беластокам (Польшча) ўжо гучалі першыя акорды VII фестывалю музыкі маладой Беларусі **"Басовішча-96"**, які мы ніяк не можам абыйсці ўвагай у нашай рубрыцы. І хоць гутарка, як бачыце, пра замежжа, гэта адзіны ў свеце фэст, дзе суцэльна пануе НАША СЛОВА.

Гэтым разам гасцямі на свяце выступалі суперзоркі беларускага року з так званай этнічнай тэрыторыі, дзе прыярытэтам з'яўляецца ўжо не тая моўная палітыка, што магла б падтрымліваць развіццё культуры карэннага народа. І сярод гэтых зорак, якія з поспехам прадстаўляюць Маладую Беларусь на эміграцыі, гурты "Крама", "Палац", "НРМ", "Уліс", "Новае неба".

У конкурсе гэтым разам прымала ўдзел шмат беларускамоўных калектываў не толькі з Беларусі, але і з Польшчы. Праўда, як заначыў каментатар Польскага радыё з Варшавы Аляксандр Навіцкі, "творчы напал назіраўся пераважна ў калектываў з Польшчы, а вось беларусы дэманстравалі адсутнасць творчага пошуку, падпарадкаванасць свайго іміджу накатанаму вобразу польскага року, а больш-менш удачлівыя асмельваліся... прывезці цалкам старую або крыху падноўленую праграму".

Назіранне замежнага журналіста, безумоўна, мае рацыю, хоць і не ўлічвае аднаго істотнага нюанса: так, беларускі рок спыніўся ў сваім развіцці, бо існаваў у дзяржаве варожых адносінаў да ўсяго беларускага. І ўсё ж у лідэры "Басовішча-96" трапілі таксама гадаванцы мачахі-радзімы. Сярод пераможцаў — гурты **"Айша"** (Гародня), які атрымаў спецыяльную ўзнагароду, **"Брага"** (Гарадок), якому прымеркавалі прыз прэсы, **"Вядро"** (Бельск-Падляскі), ушанаваны прызам арганізатараў — Беларускага Аб'яднання Студэнтаў у Польшчы і **"Кардон"** (Беласток), найбольш упадабаны публікай.

Кідаецца ў вочы істотная "дробязь": калі раней на "Басовішчы" перамагалі сталічныя калектывы, а правінцыя папросту маўчала на роднай мове, дык цяпер сталіца паставіла толькі зорак у фэстаўскі гасцявы канцэрт, а правінцыя пусцілася навыперадкі да родных каранёў. Мо гэта пераемнасць добрай традыцыі.



## А ці маліліся вы нанач, стынгаманы?

Брытанскі спявак **Стынг** — рок-зорка сусветнага маштабу. Фан-клубы і паасобныя прыхільнікі ягонай творчасці ёсць і ў самой Брытаніі, і ў ЗША, і ў Нямеччыне, і ў Партугаліі, і — ясная справа — у нас, у Беларусі.

Не, па-беларуску ён не спяваў, аддаючы належнае (як кожны здаровы чалавек, а тым больш дзеяч мастацтва) роднай мове. Хоць, зрэшты, па-іспанску ды па-нямецку спрабаваў, імкнучыся прысароміць тых шматлікіх "скарпіёнаў мастацтва", для якіх мова — не стрыжань культуры, а толькі тэхнічны сродак, якім можна карыстацца без дасканалага ведання, без адчування яго душой.

І ўсё ж ёсць у Стынга песня, якую ведае кожны беларус, але якая не заўсёды знойдзецца ў самых пільных калекцыянераў стынгаўскай дыскаграфіі.

А рэч вось у чым. Вядомы каталіцкі гімн **"Хлеб анёльскі"** ("Panis Angelicus") беларусы-каталікі не раз чулі ў касцёлах Гародні і Менска, Ракава і шмат якіх іншых гарадоў ды мястэчкаў Беларусі. Дык вось Стынг заспяваў гэты славуты твор разам з **Лучана Паварoці** — не менш славутым італьянскім тэнарам. У кружэлку апошняга, якая атрымала назву "Pavarotti & Friends", 1992 і ўвайшла боская мелодыя.

Але не буду бянтэжыць беларускіх стынгаманаў, якія ўсё ж не ўсе здольныя трываць класічную паставу вакалу, хай сабе такога выдатнага дару, як тэнар Паварoці. Літаральна апошнім часам на беларускім музычным рынку з'явіўся проста унікальны CD Стынга (гл. здымак), на якім сабраныя творы і з усіх альбомаў спевака ("Сон блакітнай чарапахі", 1985, "Не гараўнаецца і сонца", 1987, "Дзесяць вестуновых казак", 1993, "Ртутны спад" або "Заход Меркурыя", 1996), і з даробку гурта "Police", дзе Стынг працаваў ("Greatest hits", 1992), і больш-менш выпадковыя запісы з суперзоркамі розных жанраў і характараў (блюзавік Эрык Клэптан, круты рокер Род Сцюарт ды іншыя, не выключаючы і Паварoці). І хай вас таксама не бянтэжыць назва новай падборкі — "Найлепшыя балады": папросту цяпер, калі амаль няма музычнай крытыкі, затое процьма музычнай рэкламы, баладамі называюць усё, што не ўпісваецца ў жвавыя рытмы традыцыйнага рок-н-рола. Гэткім жа шляхам у збор баладаў трапіў і каталіцкі гімн.




## Гарачыя дзянькі Павольнай рукі

Дарэчы, мімаходзь згадалі тут **Клэптана**, а шаноўны кароль белага блюза (на здымку) заслугоўвае асобнага радка. І не толькі радка захаплення ягонай творчасцю, але і радка шчырага спачування містэру Павольная рука (Слоўгэндам яго празвалі пасля аднайменнага альбома, падоранага і нам калісьці фірмай "Мелодыя").

І гэтая рука зусім не згубіла павольнасці ў імклівым віры нашага часу. Проста перасьлед бытавых непрыемнасцяў стаў адзіным, што дэманструе стабільнасць у жыцці Клэптана. Зусім нядаўна згарэў ягоны дыхтоўны дом у прэстыжным раёне Лондана. Цяпер такая хатка каштуе тры мільёны баксаў, якія і суперзорцы з неба не зваляцца, не абкладзеныя славутымі англійскімі падаткамі на шоў-бізнес.



Кажуць, што падвяла электрасетка (няўжо і там напруга скача ў недазволеных межах?), але факт застаецца фактам: музыка вярнуўся дадому тады, калі вогнішча ўжо ўзяло сваю ахвяру. Уратаваць удалося толькі калекцыю гітараў. І гэта не капрыз славутага гітарыста: проста кошт некаторых экземпляраў унікальнага збору дасягае на аўкцыёнах ледзь не сотню тысячаў долараў. Пара дзесяткаў такіх экспанатаў — і новая хатка.

Зрэшты, займацца распродажам рарытэтаў пакуль няма патрэбы: прытулак суперзорка знайшла ў аднаго са спадарожнікаў па гэтай зорнай дарозе. І, дзякаваць Богу, больш важкіх страт (для душы) не было.

**Старонку "ПТ" прэзентуе шаноўным чытачам журналіст, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Кинонеделя Минска" Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 918

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2484 паасобнікаў
Падпісана ў друк 28.08.1996 г. у 15 гадзін.